● выдаецца са жніўня 1917 г.

БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

● кошт 3000 рублёў

31 сакавіка 1998 г. аўторак, № 73 (23424)



# ЗВЯЗДА



Сакавіцкія сілуэты. Фота IREX/ProMedia.

## «ЗАЛАТАЯ ШАЙБА» АЗНАМЕНАВАЛА АДРАДЖЭННЕ ДЗІЦЯЧАГА СПОРТУ Ў БЕЛАРУСІ

**Перамогай юных хакеістаў з вёскі Зубава Аршанскага раёна завяршыліся рэспубліканскія спаборніцтвы «Залатая шайба» на прызы першага прэзідэнта Беларусі. У рашаючым матчы 28 сакавіка падапечныя інструктара фізкультуры Канстанціна Паборцава абыгралі ў сталічным Палацы спорту прадстаўнікоў Мінскай вобласці з лікам 6:3. Трэцяе месца заваявалі мінчане.**

На гульнях прысутнічаў і актыўна суперажываў юным спартсменам кіраўнік дзяржавы Аляксандр Лукашэнка, па чыёй ініцыятыве і быў адроджаны гэты некалі вельмі папулярны турнір.

Шчаслівыя пераможцы і іх трэнер не маглі стрымаць радасці пасля пераможнай гульні і ў адзін голас гаварылі, як здорава, што ў дні веснавых канікулаў яны змаглі не толькі выступіць у турніры, але і наведаць сталічныя тэатры, музеі, выстаўкі. Разам з прыгожымі кубкамі і дыпломамі прызёры атрымалі і каштоўныя падарункі: усе чэмпіёны сталі ўладальнікамі каляровых тэлевізараў, сярэбраныя прызёры атрымалі па музычнаму цэнтру, а бронзавыя медалісты летам паедуць адпачываць у рэспубліканскі аздараўленчы лагер «Зубраня». Не засталіся без падарункаў і лепшыя ігракі. Акрамя таго, усе ўдзельнікі фінальных спаборніцтваў атрымалі на памяць гадзіннікі з эмблемай турніру.

«Сёння мы сталі сведкамі адраджэння дзіцячага спорту», — сказаў Аляксандр Лукашэнка, выступаючы на ўрачыстым закрыцці турніру. Кіраўнік дзяржавы адзначыў, што фізічнае здароўе — гэта будучыня нацыі, а пачынаецца яно на малых спартыўных арэнах, дваровых пляцоўках і стадыёнах. Павіншаваўшы хакеістаў, прэзідэнт адзначыў, што следам за «Залатой шайбай» будзе адроджаны яшчэ адзін папулярны ў мінулым турнір «Скураны мяч», у якім прымуць удзел юныя футбалісты.

**Ігар ХАДАСЕВІЧ, БЕЛТА.**

## «КІТАЙСКІ ЦУД» ВАЧЫМА БЕЛАРУСКІХ ДЭПУТАТАЎ

Афіцыйным візітам адказалі беларускія парламентарыі на запрашэнне Усекітайскага сходу народных прадстаўнікоў наведаць самую вялікую азіяцкую краіну. З 21 па 28 сакавіка дэлегацыя Нацыянальнага сходу знаходзілася ў Кітаі, а ўчора яе члены далі прэс-канферэнцыю па выніках паездкі ў КНР.

У гэтыя дні дэпутаты правялі шэраг сустрэч: са Старшынёй КНР Цзянь Цзэмінем, Старшынёй Пастаяннага камітэта Усекітайскага сходу народных прадстаўнікоў Лі Пэнам, намеснікам Старшыні ПК УСНП Цімурам Даваматам і віцэ-прэм'ерам Дзяржсавета Лі Ланьцінем, з кіраўнікамі мясцовых адміністрацый некаторых правінцый.

Відавочна, рэальны плён ад візіту будзе ўсвядомлены пазней, пакуль жа ў выказваннях дэпутатаў было больш эмоцый і звычайных чалавечых уражанняў. Кіраўнік дэлегацыі, Старшыня Палаты прадстаўнікоў Анатоль Малафееў нават зазначыў, што пасля ўбачанага ў Кітаі ён стане на радзіме «прапагандыстам кітайскага эканамічнага вопыту, але з улікам беларускіх рэалій і айчыннага менталітэту». Кітайскія рэформы не менш здзівілі і ўразілі іншых членаў дэлегацыі — Старшыню Савета Рэспублікі Паўла Шыпука, кіраўнікоў пастаянных камісій Нацыянальнага сходу Аляксандра Зінчанку, Уладзіміра Ягорава і Уладзіміра Каравая.

У прыватнасці, П. Шыпук, спыніўшыся падрабязна на некаторых дасягненнях кітайскіх эканамістаў, адзначыў імклівы рост колькасці новабудоўляў і пашырэнне вытворчасці. Па яго словах, гэта дазваляе Кітаю не адставаць у развіцці нават ад вядучых краін свету. Асабліва моцна адчуваецца эфект ад «кітайскага цуду» ў, так званых, свабодных эканамічных зонах.

Як падкрэслілі члены дэлегацыі, у іх не існуе эйфарыі, таму толькі некаторыя асаблівасці развіцця кітайскай эканомікі могуць атрымаць другое жыццё ў Беларусі. «Мы не прывезлі гатовых рэцэптаў, — зазначыў А. Малафееў.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

### КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ У КАМЕРЦЫЙНЫХ БАНКАХ І АФІЦЫЙНЫ КУРС, УСТАНОЎЛЕНЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫМ БАНКАМ НА 30 САКАВІКА 1998 г. (па стану на 15.00)

| Назва банка | USD | | DM | | RUR | | Тэлефон для даведак |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Купля | Продаж | Купля | Продаж | Купля | Продаж | |
| Мінск (0-17) | | | | | | | |
| Белпрамбудбанк | 41500 | 42500 | 22500 | 23000 | 6800 | 7000 | 233-2110 |
| Мінсккомплексбанк | 41500 | 42000 | 22700 | 23050 | 6800 | 6900 | 228-2055 |
| Пріорбанк | 41000 | 42500 | 22400 | 23300 | 6700 | 6900 | 245-5721 |
| Нацыянальны банк РБ (курс для безнаяўных разлікаў) | 33660.00 | | 18363.34 | | 5530.00 | | Курс на 31.03.1998 |
| Цэнтрабанк Расіі | 6.1060 | | 3.3425 | | | | |

*На працягу дня ўстаноўленыя курсы могуць мяняцца, курсы галаўнога ўпраўлення банка могуць неістотна адрозніваццца ад курсаў, устаноўленых у абменных пунктах. Інфармацыя атрымана ад галоўных упраўленняў негандлёвых аперацый адпаведных банкаў.*

**Агенцтва ГРАЎЦОВА.**

### КУРСЫ ЗАМЕЖНЫХ ВАЛЮТ НА МІЖНАРОДНЫМ РЫНКУ

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Рынкавы намінальны курс | 53999 | 58999 | 29459 | 32204 | 8865 | 9688 | |
| Рэальна абгрунтаваны намінальны курс (прыблізна) | 49000 | 49500 | 27300 | 27800 | 8200 | 8600 | |

### ДА ВЕДАМА ЧЛЕНАЎ САВЕТА РЭСПУБЛІКІ НАЦЫЯНАЛЬНАГА СХОДУ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Чацвёртая сесія Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь пачне сваю работу 2 красавіка 1998 года ў зале пасяджэнняў Савета Рэспублікі (г. Мінск, вул. Чырвонаармейская, 4).

Рэгістрацыя будзе праводзіцца з 8 гадзін 30 хвілін.



## ПАБЛІЗУ ЛІПАВАК ПРАГРЫМЕЎ ВЫБУХ. ЗАГІНУЛІ ДВОЕ

**Жыхары Ліпавак што ў Докшыцкім раёне, маглі пачуць выбух, які прагрымеў паблізу вёскі ў лясным масіве каля шаснаццаці гадзін у мінулую нядзелю. Аднак наўрад ці хто мог меркаваць, што выбух прывёў да чалавечых ахвяр.**

Аднак для навучэнца ПТВ і васьмікласніка з вёскі Круглеўшчына здарэнне сапраўды скончылася трагічна. Хлопцы, наткнуўшыся ў лесе на артылерыйскі снарад часоў Вялікай Айчыннай вайны, нічога лепшага не прыдумалі, як кінуць яго ў вогнішча. Асколкі не пашкадавалі ніводнага — абодва юнакі загінулі.

Напярэдадні ў лясным масіве паблізу вёскі Пружышчы Любанскага раёна таксама адбылося здарэнне. На ўчастку нафтаправода Любань—Віша адбылася ўцечка гаручага. Як устанавілі спецыялісты, аварыя адбылася з-за зносу трубы. У выніку выцекла каля 100 кубічных метраў нафты, якая затапіла 0,65 га плошчы.

Колькі б зараз адпаведныя службы ні папярэджвалі насельніцтва аб трагедыях на лёдзе, усё ж такі знаходзяцца жадаючыя выпрабаваць лёс. На гэты раз ахвярамі такога «эксперыменту» сталі двое мужчын, якія спрабавалі паблізу вёскі Смеліўна Мінскага раёна перайсці па лёдзе вадаём. Лёд не вытрымаў цяжару людзей, якія, на жаль, выратавацца не змаглі.

А вось у Мінску нейкія невядомыя падкінулі праблему ў пад'езд дома па вуліцы Заслаўскай: там у чатыры гадзіны раніцы былі знойдзены дзве ёмістасці — гумавая і металічная. Падазроны груз «разбіралі» супрацоўнікі гарадскога штаба грамадзянскай абароны. Як выявілася, у ёмістасцях знаходзілася каля 2 кілаграмаў ртуці.

**Ігар ГРЫШЫН.**

# УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 157

## АБ ДЗЯРЖАЎНЫХ СВЯТАХ І СВЯТОЧНЫХ ДНЯХ У РЭСПУБЛІЦЫ БЕЛАРУСЬ

У мэтах упарадкавання дзяржаўных свят і святочных дзён, адзначаемых у Рэспубліцы Беларусь, забеспячэння адзіных падыходаў да іх устанаўлення і правядзення і ў адпаведнасці з пунктам 18 артыкула 84 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, **пастанаўляю:**

1. Вызначыць, што:

1.1. дзяржаўнае свята — гэта свята, устаноўленае ў Рэспубліцы Беларусь у азнаменаванне падзеі, якая мае асаблівае гістарычнае або грамадска-палітычнае значэнне для Рэспублікі Беларусь і аказала істотны ўплыў на развіццё беларускай дзяржавы і грамадства.

У РЭСПУБЛІЦЫ БЕЛАРУСЬ АДЗНАЧАЮЦЦА НАСТУПНЫЯ ДЗЯРЖАЎНЫЯ СВЯТЫ:

**Дзень Канстытуцыі** — 15 сакавіка;

**Дзень яднання народаў Беларусі і Расіі** — 2 красавіка;

**Дзень Перамогі** — 9 мая;

**Дзень Дзяржаўнага герба Рэспублікі Беларусь і Дзяржаўнага сцяга Рэспублікі Беларусь** — другая нядзеля мая;

**Дзень Незалежнасці Рэспублікі Беларусь (Дзень Рэспублікі)** — 3 ліпеня;

1.2. іншыя дні, прысвечаныя выдатным падзеям, традыцыйным датам, ушанаўванню работнікаў пэўнай прафесіі, галіны гаспадаркі або сферы дзейнасці і г. д., не названыя ў падпункце 1.1 пункта 1 гэтага Указа, з'яўляюцца святочнымі днямі, калі гэта ўстаноўлена Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь.

2. У РЭСПУБЛІЦЫ БЕЛАРУСЬ АДЗНАЧАЮЦЦА НАСТУПНЫЯ СВЯТОЧНЫЯ ДНІ:

*2.1. агульнарэспубліканскія:*

**Новы год** — 1 студзеня;

**Дзень абаронцаў Айчыны і Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь** — 23 лютага;

**Дзень жанчын** — 8 сакавіка;

**Свята працы** — 1 мая;

**Дзень Кастрычніцкай рэвалюцыі** — 7 лістапада;

*2.2. рэлігійныя:*

**Ражство Хрыстовае (праваслаўнае ражство)** — 7 студзеня;

**Вялікдзень** — па календару праваслаўнай і каталіцкай канфесій;

**Радаўніца** — па календару праваслаўнай канфесіі;

**Дзень памяці** — 2 лістапада;

**Ражство Хрыстовае (каталіцкае ражство)** — 25 снежня;

*2.3. прафесійныя:*

2.3.1. у знак прызнання заслуг работнікаў асобных прафесій, галін гаспадаркі і сфер дзейнасці:

**Дзень работніка сацыяльнай абароны** — 5 студзеня;

**Дзень банкаўскага работніка** — першая нядзеля студзеня;

**Дзень беларускай навукі** — апошняя нядзеля студзеня;

**Дзень міліцыі** — 4 сакавіка;

**Дзень работнікаў гандлю, бытавога абслугоўвання насельніцтва і жыллёва-камунальнай гаспадаркі** — чацвёртая нядзеля сакавіка;

**Дзень геолага** — першая нядзеля красавіка;

**Дзень друку** — 5 мая;

**Дзень работнікаў радыё, тэлебачання і сувязі** — 7 мая;

**Дзень фізічнай культуры і спорту** — трэцяя субота мая;

**Дзень хіміка** — апошняя нядзеля мая;

**Дзень работнікаў лёгкай прамысловасці** — другая нядзеля чэрвеня;

**Дзень медыцынскага работніка** — трэцяя нядзеля чэрвеня;

**Дзень работнікаў пракуратуры** — 26 чэрвеня;

**Дзень вынаходніка і рацыяналізатара** — апошняя субота чэрвеня;

**Дзень металурга** — трэцяя нядзеля ліпеня;

**Дзень пажарнай службы** — 25 ліпеня;

**Дзень чыгуначніка** — першая нядзеля жніўня;

**Дзень будаўніка** — другая нядзеля жніўня;

**Дзень работнікаў нафтавай і газавай прамысловасці** — першая нядзеля верасня;

**Дзень мытніка** — 20 верасня;

**Дзень работнікаў лесу** — трэцяя нядзеля верасня;

**Дзень машынабудаўніка** — апошняя нядзеля верасня;

**Дзень настаўніка** — першая нядзеля кастрычніка;

**Дзень аўтамабіліста** — апошняя нядзеля кастрычніка;

**Дзень работнікаў сельскай гаспадаркі і перапрацоўчай прамысловасці аграпрамысловага комплексу** — трэцяя нядзеля лістапада;

**Дзень юрыста** — першая нядзеля снежня;

**Дзень супрацоўніка органаў дзяржаўнай бяспекі** — 20 снежня;

**Дзень энергетыка** — 22 снежня;

2.3.2. У АЗНАМЕНАВАННЕ ВЫДАТНЫХ ГІСТАРЫЧНЫХ ЗАСЛУГ ВІДАЎ І РОДАЎ ВОЙСКАЎ АЙЧЫННЫХ УЗБРОЕНЫХ СІЛ, А ТАКСАМА ЎЛІЧВАЮЧЫ ЗАДАЧЫ, ЯКІЯ ЯНЫ ВЫКОНВАЮЦЬ ПА АХОВЕ ДЗЯРЖАЎНЫХ ГРАНІЦ І ЗАБЕСПЯЧЭННЮ МІРУ:

**Дзень войскаў проціпаветранай абароны** — другая нядзеля красавіка;

**Дзень пагранічніка** — 28 мая;

**Дзень дэсантнікаў** — 2 жніўня;

**Дзень ваенна-паветраных сіл** — трэцяя нядзеля жніўня;

**Дзень танкістаў** — другая нядзеля верасня;

**Дзень ракетных войскаў і артылерыі** — 19 лістапада.

3. У РЭСПУБЛІЦЫ БЕЛАРУСЬ ТАКСАМА АДЗНАЧАЮЦЦА:

**Дзень сям'і** — 15 мая;

**Дзень моладзі** — апошняя нядзеля чэрвеня;

**Дзень беларускага пісьменства** — першая нядзеля верасня;

**Дзень міру** — трэці аўторак верасня;

**Дзень пажылых людзей** — 1 кастрычніка;

**Дзень маці** — 14 кастрычніка;

**Дзень правоў чалавека** — 10 снежня;

**Дзень беларускага кіно** — 17 снежня.

4. АБ'ЯВІЦЬ НЕРАБОЧЫМІ ДНЯМІ:

**1 студзеня** — Новы год;

**7 студзеня** — Ражство Хрыстовае (праваслаўнае ражство);

**8 сакавіка** — Дзень жанчын;

па календару праваслаўнай канфесіі — Радаўніца;

**1 мая** — Свята працы;

**9 мая** — Дзень Перамогі;

**3 ліпеня** — Дзень Незалежнасці Рэспублікі Беларусь (Дзень Рэспублікі);

**7 лістапада** — Дзень Кастрычніцкай рэвалюцыі;

**25 снежня** — Ражство Хрыстовае (каталіцкае ражство).

5. У Рэспубліцы Беларусь могуць адзначацца святочныя дні, устаноўленыя актамі міжнародных арганізацый, іншымі міжнародна-прававымі дакументамі, а па рашэнню Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь — і іншыя святочныя дні, а таксама памятныя даты, устаноўленыя заканадаўствам.

6. Рашэнне аб устанаўленні дзяржаўных свят і святочных дзён, надзяленні адпаведнай падзеі статусам дзяржаўнага свята прымаецца Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь.

Праект такога рашэння ўносіцца ў агульным парадку, устаноўленым для прадстаўлення на разгляд Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь праектаў актаў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

Да праекта прыкладаецца матываванае абгрунтаванне неабходнасці яго прыняцця. Пры гэтым падзея, якую прапаноўваецца надзяліць статусам дзяржаўнага свята або святочнага дня, павінна адпавядаць крытэрыям, названым у пунктах 1 і 2 гэтага Указа.

Падзея можа быць аб'яўлена прафесійным святочным днём у адпаведнасці з падпунктам 2.3.1 пункта 2 гэтага Указа, калі яна адпавядае аднаму з наступных крытэрыяў:

з'яўляецца знамянальнай падзеяй для гэтай прафесіі, галіны гаспадаркі або сферы дзейнасці;

звязана з днём утварэння (заснавання, стварэння) адпаведнага органа, галіны гаспадаркі ці сферы дзейнасці, з іншай юбілейнай датай;

характарызуецца традыцыйнасцю святкавання на працягу доўгага часу;

устаноўлена на міжнародным узроўні.

Прафесійнае свята можа быць таксама ўстаноўлена з прычыны асаблівай значнасці для эканомікі адпаведнай галіны гаспадаркі або сферы дзейнасці.

У адзін каляндарны дзень, як правіла, не можа ўстанаўлівацца больш за адно дзяржаўнае свята і святочны дзень.

7. У дзяржаўныя святы і агульнарэспубліканскія святочныя дні ў адпаведнасці з заканадаўствам паднімаецца Дзяржаўны сцяг Рэспублікі Беларусь.

Правядзенне з нагоды дзяржаўных свят і святочных дзён афіцыйных урачыстых мерапрыемстваў, ваенных парадаў, артылерыйскіх салютаў і феерверкаў ажыццяўляецца ў адпаведнасці з заканадаўствам. Па ініцыятыве грамадскіх аб'яднанняў, рэлігійных арганізацый і грамадзян у адпаведнасці з заканадаўствам могуць праводзіцца мерапрыемствы грамадскага характару.

8. Прызнаць страціўшымі сілу ўказы Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь згодна з прыкладаемым пералікам.

9. Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь у двухмесячны тэрмін прыняць неабходныя меры па прывядзенню заканадаўства ў адпаведнасць з гэтым Указам.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

26 сакавіка 1998 г.
г. Мінск.

# ВЯРХОЎНАЯ РАДА УКРАІНЫ СТАНОВІЦЦА БОЛЬШ ЛЕВАЙ

**Прагназіруемага ўсімі поспеху на парламенцкіх выбарах дабілася кампартыя Украіны на чале з Пятром Сіманенкам, якая стала лідэрам у большасці абласцей і Аўтаномнай рэспубліцы Крым.**

Парламенцкія выбары 29 сакавіка ва Украіне праходзілі па новай сістэме, прапарцыянальна-мажарытарнай, пры якой палова месцаў Вярхоўнай Рады (225 мандатаў) пакідалася партыям і перадвыбарным блокам, якія пераадолеюць 4-працэнтны бар'ер ад агульнай колькасці пададзеных за спіскі галасоў, другая ж палова выбіралася па вядомай нам мажарытарнай сістэме, калі выбаршчыкі асобных акруг галасуюць за канкрэтных асоб.

Афіцыйныя вынікі галасавання яшчэ не падведзены, таму даводзіцца карыстацца неафіцыйнымі і некančатковымі звесткамі. 29 сакавіка была адзначана даволі высокая актыўнасць выбаршчыкаў — каля 70 працэнтаў: з 38 мільёнаў выбаршчыкаў, паводле звестак Цэнтрвыбаркама Украіны, атрымалі ў рукі бюлетэні 29 мільёнаў. З вялікім адрывам лідзіруе кампартыя Украіны, што з'яўляецца выражэннем значнага палявення грамадства ў выніку сацыяльна-эканамічных цяжкасцяў апошняга часу. Камуністы маюць, паводле апошніх звестак, звыш 25 працэнтаў ад усіх галасоў, пададзеных за партыйныя спісы. Натуральна, што камуністы атрымаюць дадатковыя мандаты і ў мажарытарных акругах, у прыватнасці, апоўдні 30 сакавіка ажно 37 пераможцаў у акругах адносіліся да КПУ. 4-працэнтны бар'ер пераадолелі таксама Народны рух Украіны, які на другім месцы, партыя «зялёных», аб'яднаныя сацыял-дэмакраты, блок Сялянскай і Сацыялістычнай партый, Усеўкраінскае аб'яднанне «Грамада» на чале з цяпер апазіцыйным экс-прэм'ерам Паўлам Лазарэнкам, Аграрная партыя.

У мажарытарных акругах перамаглі 114 беспартыйных, 37 камуністаў, 13 — народных дэмакратаў (партыя Пуставойценкі), 10 прадстаўнікоў Аграрнай партыі, 8 — Руху, 6 — Грамады, 4 — Кангрэса ўкраінскіх нацыяналістаў...

— Відавочна, што новая Вярхоўная Рада будзе яшчэ больш левай, чым былая, аднак усё-такі камуністы не будуць мець абсалютнай большасці галасоў для таго, каб прапанаваць нейкія кардынальныя змены ў Канстытуцыю ці палітычны курс Украіны,— разважае кіеўскі журналіст Віктар Слёзка, які быў у гушчы апошніх падзей.

Расклад сапраўды ўтвараецца такі, што левыя, камуністы і сацыялісты, як чакаецца, ажывяць у парламенце сваю інтэграцыйную рыторыку і сацыялістычную прапаганду. Аднак, паводле Канстытуцыі Украіны, парламент не фарміруе ўрад, а толькі дае згоду на назначэнне прэзідэнтам прэм'ера. Таму моцных змен чакаць не варта. Прэзідэнт жа Леанід Кучма зможа абаперціся на Народна-дэмакратычную партыю Украіны, ад якой першым нумарам балаціраваўся прэм'ер В. Пуставойценка, і Аграрную партыю. Даволі лаяльныя да сённяшняга кіраўніцтва аб'яднаныя сацыял-дэмакраты, да якіх прымкнуў экс-прэм'ер Я. Марчук, а таксама партыя «зялёных».

Іншы ж экс-прэм'ер, Павел Лазарэнка са сваёй «Грамадой», знаходзіцца ў вельмі жорсткай апазіцыі да Л. Кучмы, аднак на саюз з камуністамі ён яўна не пойдзе

. Зусім натуральна, што правыя сілы вельмі негатыўна расцэньваюць такія вынікі выбараў. У прыватнасці лідэр НРУ Вячаслаў Чарнавіл заявіў, што дэмакратычныя сілы пацярпелі паражэнне з-за «распыленасці» дзеянняў і яўнага палявення электарату.

Дарэчы, у Мінску грамадзяне Украіны, якія знаходзяцца ў нашай краіне, таксама мелі магчымасць галасаваць. Паводле інфармацыі ўкраінскага дыпламата ў Мінску Івана Бунечкі, на выбарчым участку ў пасольстве Украіны бюлетэні атрымалі 148 грамадзян, і яны выказалі свае прыхільнасці прыблізна гэтак жа, як і на радзіме: 29 галасоў было пададзена за камуністаў, 15 — за сацыял-дэмакратаў, 13 — за Рух, 11 — за блок Сялянскай і Сацыялістычнай партый.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

*СУСЕДЗІ*

# ЧАГО ЧАКАЦЬ АД МАЛАДОГА ПРЭМ'ЕРА?

## Як змена ўрада ў Расіі можа адбіцца на беларуска-расійскіх адносінах?

**Верагодна, ужо ў канцы гэтага тыдня ў расійскай Дзяржаўнай Думе адбудзецца галасаванне па кандыдатуры вылучанага прэзідэнтам Барысам Ельцыным на пасаду прэм'ер-міністра Сяргея Кірыенкі. Дэпутаты наўрад ці будуць доўга ўпарціцца: перспектыва датэрміновага роспуску Думы для большасці з іх раўназначная палітычнаму небыццю і няпэўнай будучыні. Такім чынам, зусім магчыма, што ўжо ў пачатку красавіка Сяргей Кірыенка стане паўнапраўнай фігурай № 2 у расійскім кіраўніцтве. Якія перспектывы адкрые гэты факт для беларуска-расійскіх адносінаў?**

Як вядома, тыдзень таму, па гарачых слядах раптоўнай адстаўкі Віктара Чарнамырдзіна, прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка некалькімі рысамі пазначыў уласнае бачанне асобы будучага расійскага прэм'ера.

У пералік пажаданых якасцяў трапілі, у прыватнасці, вопыт кіравання рэгіёнам або буйной вытворчасцю, веданне глыбінных праблем прамысловасці.

Аднак ні гэтых, ні падобных да іх рысаў кароткая біяграфія Сяргея Кірыенкі не ўтрымлівае. Паслужны спіс кандыдата ў прэм'еры Расіі ўвогуле больш чым сціплы і выклікае нямала цалкам абгрунтаваных пытанняў нават з боку тых, хто давярае інтуіцыі Барыса Ельцына. Па сутнасці, першую буйную дзяржаўную пасаду сп. Кірыенка заняў менш як два гады таму, стаўшы ў маі 1996 г. з падачы Барыса Нямцова намеснікам міністра паліва і энергетыкі. Яшчэ праз паўгода з рук таго ж Нямцова Кірыенка атрымаў міністэрскі партфель.

Ранейшы перыяд біяграфіі новага расійскага прэм'ера не вызначаўся ні буйной арганізатарскай або гаспадарчай працай, ні кар'ернымі ўзлётамі. Выпускнік Горкаўскага інстытута інжынераў воднага транспарту на працягу сямі гадоў пасля атрымання дыплома (аж да распаду СССР) займаў нізавыя камсамольскія пасады ў Горкім. У далейшым, у бытнасць Барыса Нямцова губернатарам Ніжагародскай вобласці, Сяргей Кірыенка, мяркуючы па скупых радках афіцыйнай біяграфіі, «працаваў у дзелавых структурах Ніжняга Ноўгарада, створаных пры ўдзеле ўрада», а таксама «ўдзельнічаў у стварэнні банка «Гарантыя». У перакладзе на даступную мову, сп. Кірыенка ў той перыяд займаўся прыватным бізнесам у маштабах свайго горада і меў добрыя адносіны з губернатарам.

Пратэкцыя з боку Барыса Нямцова, мяркуючы па ўсім, стала галоўным рухавіком раптоўнага галавакружнага ўзлёту сп. Кірыенкі. Менш як за два гады нікому не вядомы дробны правінцыйны бізнесмен стаў кіраўніком урада Расіі, адной з ключавых фігур у кіраўніцтве краіны.

За Кірыенкам не стаяць ніякія палітычныя партыі або рухі, якім ён быў бы абавязаны сваім вылучэннем. За ім стаіць выключна тандэм Ельцын—Нямцоў. І няма ніякіх падстаў разлічваць на тое, што Кірыенка хоць у чымсьці адважыцца іграць самастойную ролю, адступіць ад лініі, пазначанай старэючым Барысам Ельцыным, які цалкам давярае свайму маладому фаварыту — рэфарматару Барысу Нямцову.

Для беларускага кіраўніцтва прыход Сяргея Кірыенкі наўрад ці можа азначаць адкрыццё нейкіх новых прывабных гарызонтаў. Фігура Віктара Чарнамырдзіна ў гэтым сэнсе была намнога больш прадказальнай, самастойнай і надзейнай. Вопытны гаспадарнік, Чарнамырдзін не толькі быў звязаны адной савецкай пупавінай з буйной беларускай наменклатурай, але і меў канкрэтныя асабістыя інтарэсы ў Беларусі, звязаныя з транзітам на Захад расійскага газу. У Кірыенкі ж іншае мінулае, іншыя інтарэсы і іншыя перспектывы. На адносіны з Беларуссю ён у многім (калі не ва ўсім) будзе глядзець вачыма Нямцова, які ў асаблівых сімпатыях да беларускага кіраўніцтва і палітычных рэалій у сённяшняй Беларусі не заўважаны.

Сяргею Уладзіленавічу Кірыенку 27 ліпеня споўніцца 36 гадоў. Гэта не першы выпадак у навейшай расійскай гісторыі, калі ўрад краіны ўзначальвае такі юны (па мерках маскоўскага палітычнага істэблішменту) прэм'ер. У 36 гадоў у 1917-м часовым урадам Расіі стаў кіраваць Аляксандр Керэнскі. У 1991-м кардынальныя эканамічныя рэформы ў новай Расіі пачаў 35-гадовы Ягор Гайдар. Іншая справа, што тэрмін знаходжання пры ўладзе абодвух маладых папярэднікаў Кірыенкі, якія ўзначальвалі кабінеты міністраў у пераломныя для краіны моманты, вымяраўся не гадамі, а месяцамі. Вельмі можа здарыцца, што Кірыенка не стане выключэннем з гэтага правіла.

**Валянцін ЖДАНКО.**

### БЕЛАРУСКІ ПРЭЗІДЭНТ ПРЫНЯЎ АНДРЭЯ КОЗЫРАВА

30 сакавіка Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка прыняў вядомага расійскага палітыка, дэпутата Дзяржаўнай Думы Расійскай Федэрацыі Андрэя Козырава. У ходзе сустрэчы былі абмеркаваны пытанні супрацоўніцтва паміж дзвюма краінамі. Адзначалася, што ўстанаўленне прамых узаемавыгадных эканамічных сувязяў нашай рэспублікі з рэгіёнамі Расійскай Федэрацыі з'яўляецца неабходнай умовай паспяховага станаўлення Саюза Беларусі і Расіі. Аляксандр Лукашэнка адзначыў тую актыўную ролю, якую Андрэй Козыраў, будучы міністрам замежных спраў Расійскай Федэрацыі, адыгрываў у справе збліжэння нашых дзяржаў.

**БЕЛТА.**

## ХРОНІКА АПОШНІХ ПАДЗЕЙ

● **Прэзідэнт Расіі Ельцын заявіў,** што не мае намеру балаціравацца на прэзідэнцкіх выбарах у 2000 годзе. Адначасова прэзідэнт сказаў: «Калі былы прэм'ер-міністр Чарнамырдзін аб'явіў, што ён прыняў рашэнне выставіць сваю кандыдатуру, гэта было крыху не так. Рашэнне прыняў я, — падкрэсліў Ельцын. — Аб адстаўцы ўрада. Аднак маючы на ўвазе, што прэзідэнцкую кампанію па выбарах узначаліць Чарнамырдзін», Ельцын у гутарцы з журналістамі адмовіўся назваць Чарнамырдзіна сваім пераемнікам, адзначыўшы, што «гэты тэрмін уласцівы манархіі».

● **Выконваючы абавязкі прэм'ер-міністра Расіі Сяргей Кірыенка заявіў, што прэзідэнт даручыў яму на наступным тыдні прадставіць праект эканамічнай праграмы.** Кірыенка паведаміў, што новы ўрад будзе сфарміраваны даволі хутка і ў ім будзе нямала новых асоб. Кірыенка сказаў, што ў бліжэйшыя дні не будзе аб'яўляць аб якіх-небудзь кадравых рашэннях.

● **Сама меней 28 чалавек загінулі ў Перу** ў выніку катастрофы ваенна-транспартнага самалёта, які эвакуіраваў жыхароў затопленых паводкамі раёнаў краіны. 7 чалавек лічацца прапаўшымі без вестак, яшчэ 15 пасажыраў выратаваны.

● **Мост «Васка дэ Гама» — самы доўгі ў Еўропе — быў адкрыты ўчора ў Партугаліі.** Гэта буйнейшы інжынерны праект на кантыненце пасля завяршэння будаўніцтва тунеля пад Ла-Маншам. Даўжыня моста, які забяспечвае больш свабодны аўтамабільны рух пры пад'ездзе з поўдня да Лісабона, — 17 кіламетраў 200 метраў. Кошт праекта — мільярд 300 мільёнаў долараў.

● **Ажына і вострая індыйская прыправа кары ўтрымліваюць рэчывы, якія, магчыма прадухіляюць развіццё рака.** Аб гэтым сведчаць вынікі даследаванняў, абвешчаныя на штогадовым з'ездзе амерыканскай асацыяцыі па вывучэнню ракавых захворванняў. Доследы на мышах паказваюць, што ўжыванне ажыны зніжае верагоднасць захворвання на рак стрававода. У саставе кары ўтрымліваецца рэчыва, якое спрыяе змяншэнню шанцаў захварэць ракам тоўстай кішкі.

*Паводле паведамленняў інфармацыйных агенцтваў.*

**«СОРАС ПАВЕДАМЛЯЕ АБ ТАЙНЫМ ПРАДАСТАЎЛЕННІ ПАЗЫКІ, КАБ ВЫРУЧЫЦЬ КРЭМЛЬ»**

«Фінансіст і філантроп Джордж Сорас расказаў, што прадаставіў расійскаму ўраду «некалькі сотняў мільёнаў долараў» у чэрвені мінулага года, каб дапамагчы Крамлю выканаць абяцанне па выплаце запазычанасці па пенсіях».

Сорас заявіў, што расійскі ўрад прасіў яшчэ адну кароткатэрміновую пазыку ў снежні, калі скончыўся ўстаноўлены прэзідэнтам Барысам Ельцыным тэрмін пагашэння запазычанасці па зарплатах, аднак Сорас адмовіў у гэтым. «Я не хачу ператвараць гэта ў прывычку», — дабавіў ён.

*«Файнэншл таймс» (Вялікабрытанія)*

## НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца пераменная воблачнасць, у паўночных раёнах невялікі дождж. Тэмпература паветра ў Магілёве — 7—9, Мінску, Віцебску і Гомелі — 8—10, Гродне — 10—12, Брэсце — 12—14 градусаў цяпла.

У наступныя двое сутак воблачна з праясненнямі, месцамі кароткачасовыя ападкі. Тэмпература 1 красавіка ўначы — 0—5, удзень — 3—8 градусаў цяпла; 2-га паніжэнне ўначы да 0—5 градусаў ніжэй нуля, удзень — да 1—6 градусаў цяпла.



**Напрыканцы мінулага тыдня народны артыст Расіі, кампазітар Ігар Круты і спявачка Ірына Алеграва прадставілі ў Мінску і Магілёве сваю новую праграму «Незавершаны раман». Нягледзячы на даволі значны кошт квіткоў на іх канцэрты, поўныя аншлагі былі і ў сталіцы, і ў правінцыі.**

**Расійскіх «зорак» прымаў і Аляксандр Лукашэнка. Па словах Ігара Крутога, які, як вядома, з'яўляецца галоўным прадзюсерам і старшынёй журы конкурсу маладых выканаўцаў фестывалю «Славянскі базар» у Віцебску, размова з прэзідэнтам Беларусі вялася аб правядзенні фестывалю і існуючых зараз праблемах шоу-бізнесу ўвогуле. І на прэс-канферэнцыі журналісты перш за ўсё цікавіліся ў спадара Крутога, як ідзе падрыхтоўка сёлетняга «Славянскага базара».**

# ІГАР КРУТЫ АБЯЦАЕ ЗРАБІЦЬ ТЭЛЕВЕРСІЮ «СЛАВЯНСКАГА БАЗАРА» НА ЕЎРАПЕЙСКІМ УЗРОЎНІ

## Канцэртная пляцоўка ў Віцебску будзе «ўзмоцненая» лазерамі, верталётамі і... нават дырыжаблем

**— Скажыце, калі ласка, як да вас паступіла прапанова стаць прадзюсерам фестывалю ў Віцебску?**

— Займацца «Славянскім базарам» мне прапанаваў Аляксандр Лукашэнка. Ваш прэзідэнт растлумачыў гэту прапанову тым, што яму спадабаўся мой творчы вечар, адчуванне згуртаванасці артыстаў, сям'і на сцэне. Ён сказаў мне, што жадае, каб такая ж атмасфера была на фестывалі «Славянскі базар».

**— Вас не бянтэжыць скандальная сітуацыя з існаваннем ужо двух «Славянскіх базараў» — у Беларусі і ў Расіі?**

— Калісьці я сказаў, што пачну працаваць толькі тады, калі сітуацыя з усімі праблемамі і аўтарскімі правамі будзе на «нулявой» адзнацы. Сёння па ўсіх юрыдычных нормах праблема вырашана. Назва ў беларускага фестывалю новая — «Славянскі базар у Віцебску». А прэтэнзіі спадара Віннікава, які хоча праводзіць свой фестываль у Адэсе і Саратаве?.. У рэшце рэшт, чым больш будзе «славянскіх базараў» — тым лепей.

**— Ці пачалі вы ўжо падрыхтоўку да фестывалю?**

— Так. У Віцебск я перш-наперш выклікаў тэлевізійную групу. Мы правялі сустрэчу з губернатарам вобласці і мэрам горада з запрашэннем усіх службаў, якія будуць браць удзел у рабоце фестывалю. Зразумела, што калі я ўзяўся за «Славянскі базар», дык ён павінен выглядаць трохі інакш. Я хацеў бы атрымаць перш за ўсё еўрапейскі ўзровень па тэлеверсіі фестывалю, таму канцэртную пляцоўку трэба абкружыць святлом і лазерамі, будуць весціся верталётныя здымкі і нават завісне дырыжабль з тэлеаператарам.

А ўнутранае напаўненне праграмы? Няма патрэбы называць канкрэтныя імёны — будуць усе «зоркі».

**— Ці ёсць, на ваш асабісты погляд, нейкая фінансавая і маральная рызыка ў вашай рабоце прадзюсера фестывалю «Славянскі базар у Віцебску»?**

— У дадзеным выпадку ніякіх грошай растраціць я не магу. Фестываль аплачваецца з бюджэту Саюза Беларусі і Расіі. Таму «Славянскі базар» будзе некамерцыйным фестывалем, у яго не будзе спонсараў. Але, зразумела, будзе ажыццяўляцца жорсткі кантроль над расходаваннем выдаткаваных бюджэтных сродкаў.

А мой імідж? Як я магу яго сапсаваць, калі я зраблю добры фестываль, калі будзе цікавы конкурс выканаўцаў, калі — дай Божа — хто-небудзь з лаўрэатаў гэтага конкурсу далей «раскруціцца» і стане «зорачкай»?.. Я не рызыкую нічым, калі ўсё пройдзе нармальна.

**— Вернемся да вашага «Незавершанага рамана» з Ірынай Алегравай, якую на прайшоўшых канцэртах вы прадстаўлялі як сваю любімую спявачку...**

— Ірына спела 33 мае песні. Гэта цэлы перыяд жыцця! А пазнаёміліся мы гадоў дваццаць таму. Мы з Сашам Сяровым прыехалі на гастролі ў Маскву нікому не вядомым правінцыйным ансамблем і жылі ў нашага знаёмага Валодзі, вельмі добрага піяніста, які быў першым мужам Ірыны Алегравай. Ён прывёў Ірыну на наш канцэрт, і мы пазнаёміліся.

**— Песня, якая дала назву вашай новай праграме, стала агульнанародным хітом. У чым, на ваш погляд, сакрэт яе такога шалёнага поспеху?**

— Наш «незавершаны раман» з Ірынай адбываецца толькі на сцэне, па-першае. А вось сакрэт поспеху мне не вельмі зразумелы. Магчыма, у нейкай імгненнай шчырасці. Мы працавалі ў Тварской студыі над альбомам «Я хмары развяду рукамі». Здымалі там проста «хохмы»: вы ж бачылі, мы нават не былі апрануты належным чынам, я дык зусім у нейкай спартыўнай кашулі... А Ірына ўвогуле павінна была сама гэтую песню спяваць, а тут і гаворыць мне: «Ідзі спявай...» Вось так усё спантанна і атрымалася. Аднак, магчыма, знутры выбухнулі эмоцыі, якія і вызначылі поспех песні. Таксама трэба ўлічыць і прыстойную «раскрутку» на тэлебачанні, а папулярнасць твора залежыць перш за ўсё ад гэтага.

**— З кім вам лягчэй працаваць як кампазітару — з жанчынамі ці мужчынамі-выканаўцамі?**

— Заўсёды ёсць свае мінусы і плюсы. Вельмі прафесійна запісваюцца толькі два чалавекі — Пугачова і Сяроў. Для іх не існуе такога паняцця, як нязладжаныя ноты. Яны проста выходзяць да мікрафона і спяваюць.

Аднак, напрыклад, той жа Сяроў працуе на характар. Усе ноты праспяваў, але ён ходзіць і пакутуе, шукае вобраз. Я на запісы песні «Я кахаю цябе да слёз» страціў дзесяць гадоў жыцця. Мы запісвалі, і я ішоў дадому, але Сяроў мне тэлефанаваў і паведамляў, што запіс ён знішчыў: маўляў, песня павінна нараджацца ў пакутах. Усё ішло такім чынам, пакуль мы не пачалі талеркамі адзін у аднаго кідацца...

А вось Пугачова выконвае толькі адзін раз, але да гэтага адзінага дубля яна рыхтуе сябе вельмі доўга. Хвілін сорак пайшло ў яе на падрыхтоўку да запісу «Каханне, падобнае на сон»: яна крочыла па студыі, глядзела вершы, пыталася яшчэ раз пра сэнсавыя акцэнты, прымервалася да мікрафона... Потым сказала: «Завесці матор!» і спела толькі адзін раз.

З астатнімі спевакамі запісы ідуць больш складана...

**— Адкуль вы чэрпаеце натхненне для напісання сваіх твораў?**

— Маё натхненне — ад жонкі Вольгі. Яна з'яўляецца і першым слухачом маіх песень. Вольга жыве ў Амерыцы, а пазнаёміліся мы ў Нью-Йорку, калі я прыехаў туды з «Песняй года». І ў яе, і ў мяне былі сем'і, якія распаліся ў выніку нашага знаёмства. Мы пажаніліся тры гады таму.

— Адчуць гэта немагчыма. Але, напэўна, ёсць нейкія перадумовы, па якіх можна нешта меркаваць. Калі, напрыклад, робіцца песня «Не сып мне соль на рану», то гэта ж зразумела, што яе чакае рэстаран. Гэта, прабачце, тое ж самае, што агаліцца ў праграме «Час», гэта «ніжэй пояса», гэта асуджана на хітовасць. Іншая справа, калі «раскручваюцца» такія песні, як «Начное рандэву», «Паромшчык», «Айсберг»... Вось калі такі хіт становіцца агульнанацыянальным, і разам з тым ён не «танны», дык гэта дарагога каштуе.

**— Ці ёсць у вас асабістыя кампазітарскія перасцярогі?**

— Я баюся страціць «нюх» на песню. Гэта, магчыма, і грубае слова, але цалкам правільнае, і ў любога кампазітара «нюх» павінен быць. Песня гучыць тры хвіліны: і за гэты час яна павінна запомніцца, трэба распавесці пра нешта і гэтым расхваляваць слухача. Гэта ж не сімфонія, дзе за сорак хвілін можна і пахаваць, і ўваскрэсіць.

«Нюх» могуць страціць і самыя сапраўдныя прафесіяналы. Напрыклад, Давід Тухманаў, які 20—25 гадоў сачыняў толькі хіты, за апошнія тры гады свайго жыцця ў нашай краіне нічога не стварыў, акрамя «Чыстых прудоў» для Талькова. Мяркую, што ў мяне хопіць такту і крытычнай самаацэнкі, каб сысці са сцэны своечасова.

**— Ці прымхлівы вы чалавек увогуле?**

— Не да такой ступені, каб насіць талісманы і хрысціцца за сцэнай. Але быў такі выпадак, калі я выйшаў з дому, сеў у машыну, паехаў, але мне перабег дарогу кот. У нас два выезды з двара, і я паспрабаваў выехаць з іншага, але і там кот зноўку перабег. Я ўрэшце кінуў машыну і вярнуўся дадому.

**— Якім чынам вы наладжваеце свой быт?**

— Усе свае песні я пішу ў Амерыцы і там жа працую ў студыях гуказапісу. Мне трэба вызваліць галаву ад тэлефанаванняў і маскоўскай «тусоўкі». Перад вачыма ў мяне павінен быць акіян...

У Маскве ў мяне была і ёсць сціплая трохпакаёвая кватэра, але пасля жаніцьбы я звярнуўся да мэра Масквы, і мне выдзелілі прыстойную кватэру ва ўрадавым доме на вуліцы Касыгіна. Там жывуць толькі восем сем'яў, і маімі суседзямі цяпер будуць Гарбачоў і Лігачоў.

**— Вы адчуваеце, калі працуеце над канкрэтнай песняй, што ёй наканавана стаць шлягерам?**

**— На ваш погляд, шоу-бізнес — гэта сапраўды страшная справа? І які характар трэба мець, каб дабіцца поспеху ў шоу-бізнесе?**

— Не магу сказаць, што я — размазня. Калі б я ім быў, у мяне сапраўды нічога б не атрымалася. Ведаеце, усё тое, што адбываецца ўвогуле ў краіне, можна праецыраваць і на шоу-бізнес. Забаўляльную індустрыю нельга разглядаць асобна ад эканамічных працэсаў. Зразумела, што ў расійскім шоу-бізнесе хапае нецывілізаваных метадаў, неўласцівых Захаду.

**— Калі б вам заўтра прапанавалі крэсла міністра культуры, вы згадзіліся б?**

— Не. Палітычныя перыпетыі мне цікавыя роўна настолькі, наколькі народу ў краіне жывецца нармальна, наколькі ён увогуле здольны жыць нармальна... Але я ўжо і сам не веру ў гэта. Асабіста я не разумею, што ў краіне адбываецца, гэта знаходзіцца за мяжой майго ўспрымання...

**— Якому ладу жыцця вы аддаяце перавагу?**

— Я люблю спакойны лад жыцця, але жыць такім чынам мне, відаць, не наканавана. У мяне шалёны распарадак дня, я заўсёды знаходжуся «в бегах».

**— Над чым вы зараз працуеце як кампазітар?**

— Я заканчваю альбом з Лаймай Вайкуле ў Нью-Йорку. Я мяркую, што ён выйдзе ў свет у верасні, і ўскладаю на яго вялікія надзеі, бо мы «майстравалі» яго ў вельмі дарагой студыі. Мы пайшлі з Лаймай на гэтыя выдаткі, бо толькі ў Амерыцы можна атрымаць такі высакаякасны гук. Потым на чарзе — альбом інстументальнай музыкі і запіс новых песень для Ірыны Алегравай.

**— Што б вы шчыра пажадалі сваім слухачам?**

— Не здраджваць мне!

**Ілона ІВАНОВА.**
**Фота Аляксандра ЛІЦІНА.**




# САМАКАНТРОЛЬ — ЗАЛОГ ДОБРАГА САМААДЧУВАННЯ ПРЫ ЗАХВОРВАННІ НА ЦУКРОВЫ ДЫЯБЕТ

## Менавіта гэтаму будзе садзейнічаць і экспрэс-аналізатар утрымання глюкозы ў крыві, выраблены на Мінскім прыборабудаўнічым заводзе

**Цукровы дыябет — захворванне, пры якім падстраўнікавая залоза чалавека не выпрацоўвае ці выпрацоўвае ў недастатковай колькасці інсулін, — рэчыва, якое дапамагае глюкозе ператварыцца ў крыніцу энергіі, прадухіляе выпрацоўку лішкавай колькасці глюкозы.**

Хоць чалавек з павышаным узроўнем цукру ў крыві можа адчуваць сябе здавальняюча, нельга кіравацца толькі ўласнымі адчуваннямі, таму што рызыка сур'ёзных ускладненняў будзе тым вышэй, чым больш чалавек знаходзіцца па-за кантролем. Кантралюючы ўзровень цукру ў крыві, вы атрымліваеце інфармацыю, неабходную для кіравання вашым дыябетам.

Асноўная мэта самакантролю, як вядома, гэта падтрыманне ўзроўню глюкозы ў крыві ў калянармальных межах (5,5 ммоль/л). Для забеспячэння гэтага неабходна мець магчымасць правядзення экспрэс-аналізу крыві на глюкозу (цукар) у любых умовах і дастаткова часта з дапамогай індывідуальных экспрэс-аналізатараў.

Сёння на рынках краін СНД ёсць у асноўным толькі імпартныя прыборы і тэст-палоскі да іх. Яны даволі дарагія — ад 90 да 150 долараў ЗША, таму ў большасці выпадкаў недаступныя для масавага спажыўца.

Улічваючы, што ў Беларусі вялікая колькасць хворых на цукровы дыябет дарослых і дзяцей і іх колькасць павялічваецца з-за вынікаў чарнобыльскай аварыі, адкрытым акцыянерным таварыствам «Мінскі прыборабудаўнічы завод» і Мінскім навукова-даследчым інстытутам радыёматэрыялаў разам распрацаваны і выпушчаны экспрэс-аналізатар утрымання глюкозы ў крыві. Ён складаецца з прыбора «Глюкаметр» і тэст-палосак да яго «Глюкасен». Прынцып работы прыбора заснаваны на вымярэнні велічыні току пры біяэлектрахімічнай рэакцыі, якая працякае ў кроплі крыві пры нанясенні яе на тэст-палоску (датчык).

Правілы карыстання прыборам простыя. Вы праколваеце палец ланцэтам (так, як гэта робіцца ў паліклініках пры аналізе крыві). Затым наносіце кроплю крыві на тэст-палоску, папярэдне ўстаўленую ў прыбор, націскаеце кнопку і ўжо праз 40 секунд даведваецеся аб узроўні ўтрымання глюкозы ў вашай крыві.

Гэты прыбор паспяхова прайшоў двухгадовую апрабацыю ў васьмі медыцынскіх установах і з'яўляецца адзіным прыборам, дазволеным для прымянення Міністэрствам аховы здароўя Рэспублікі Беларусь. Прыбор сертыфікаваны Белстандартам. На міжнароднай выставе вынаходстваў і новых ідэй «Геніус-96», якая праходзіла ў Будапешце, удастоены дыплома і вялікага медаля выставы.

Забяспечыўшы такім чынам кантроль свайго стану і пракансультаваўшыся з лячэчым урачом, вы вызначыце для сябе неабходную дыету, комплекс фізічных практыкаванняў і нагрузак, неабходны курс лячэння, што дапаможа вам дасягнуць нармальнага ўзроўню цукру ў крыві і значна знізіць ці ўвогуле выключыць рызыку сур'ёзных ускладненняў.

***Атрымаць кансультацыі па пытаннях выкарыстання і набыцця глюкаметраў і тэст-палосак можна ў Мінску ў ААТ «Мінскі прыборабудаўнічы завод» (прасп. Ф. Скарыны, 58, тэл. 239-97-30, 239-94-84) ці ў НДІ радыёматэрыялаў (вул. Кіжаватава, 86, тэл. 278-37-06, 278-32-02).***

ЭКСПРЭС-АНАЛІЗАТАР УТРЫМАННЯ ГЛЮКОЗЫ Ў КРЫВІ
ГЛЮКАМЕТР ГМ-1
Вымярэнне ў хатніх умовах узроўню ўтрымання глюкозы ў крыві
Час аналізу — 40 сек.
Межы вымярэння ўзроўню глюкозы — 2-19,9 мМоль/л
Пагрэшнасць вымярэння — 15 прац.
Індыкацыя зніжэння напружання батарэй — да 7 В
Уманціраваная сістэма кантролю каліброўкі
Маса — 0,28 кг.



# Старонка Паўла Глобы

## 1 красавіка, серада

**РЭКАМЕНДАЦЫІ**. Не рэкамендуюцца высокая сацыяльная актыўнасць, напружаная праца, доўгія размовы. Логіка і разлік могуць падвесці, жывіце па інтуіцыі, прыслухоўвайцеся да свайго ўнутранага голасу. Дзень лепш прысвяціць сям'і, клопатам пра блізкіх і адпачынку. Запальвайце свечкі, акурвайце дом пахучымі травамі, напрыклад, сухім коранем ядлоўцу ці багульніку. Можна праводзіць практыкі па амалоджванню. Гэта дзень любові і пошукаў гармоніі.

**ПРЫМЕТЫ**. Па паводзінах жывёл у гэты дзень мяркуюць, як да вас адносяцца людзі. Калі на вас брэша сабака — да непрыемнасцяў. Кошка падрапала — да катастрофы. Калі вы нечакана трапілі пад дождж і прамоклі — да шчасця і ўдачы. Знайсці асколак люстэрка — да праяснення заблытанай сітуацыі. Калі на вас упадзе пяро птушкі, то хутка вы атрымаеце добрую вестку ці сустрэнеце даўняга сябра. Знайсці дробную манету, асабліва гербам уверх, — знак удачнага вырашэння праблем.

**СНЫ**. Прарочыя сны. Добра бачыць жывёл і птушак. Плаваць у вадзе — да вызвалення ад хвароб. Прымяраць новае адзенне — да багацця і ўмацавання сям'і, для жанчын — да цяжарнасці. Лятаць — да набыцця сіл і новых сяброў. Бачыць сябе ў люстэрку — да выкрыцця тайнаў. Убачыць сябе голым — да хвароб і няўдач. Агонь — да страты сіл, пакут. Холад, зіма — да смутку і няўдач.

**ЕЖА**. Добра піць натуральныя сокі, кампоты, крынічную ваду, а таксама белае віно. Рытуальная ежа — кісялі: аўсяны, гарохавы, ячменны. Не пажадана есці ежу, якая цяжка ператраўліваецца, а таксама арэхі і мёд.

**АДЗЕННЕ**. Аддайце перавагу няяркім, размытым тонам. Спрыяльныя сіні і серабрысты колеры. Адмоўцеся ад усяго жоўтага і аранжавага.

**МЕДЫЦЫНА**. Слабыя рукі, плечы, лёгкія, дыхальныя шляхі, можа з'явіцца кашаль. Абвостраная рэакцыя на забруджанасць паветра. Паказана лячэнне хвароб крыві.

**Падрыхтавана да друку спецыяльна для «Звязды» астралагічным цэнтрам «АРБА».**

# ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

Як быць, калі жонка адмаўляецца выконваць свае жаночыя абавязкі? Гэта праблема ўзнікла ў 32-гадовага жыхара баварскага горада Масберге. Праўда, муж і жонка жылі ўжо паасобку. Але ён вырашыў нанесці візіт сваёй неразведзенай жонцы і напомніць ёй пра крыху забытыя «абавязкі». Калі яна заўпарцілася, ён дастаў газавы пісталет і, пагражаючы ім, дабіўся свайго. Падобнага роду «спатканне» мужа з жонкай суд Баварыі расцаніў як насілле і вызначыў яму тры з паловай гады турэмнага зняволення. Пры гэтым трэба адзначыць, што з ліпеня мінулага года ў Германіі дзейнічае закон аб крымінальнай адказнасці за насілле ў шлюбе.

**ІТАР—ТАСС.**

У адной са школ горада Першаўральска вучні пятага класа ўстанавілі штраф за бойку. За кожную патасоўку завадатары павінны выплаціць пяць тысяч старых рублёў.

Бацькі станоўча аднесліся да гэтай ініцыятывы, паколькі апошнім часам іх дзеці сталі прыходзіць дадому з разбітымі насамі. Скарбонка для грошай вісіць на самым бачным месцы, за яе папаўненнем сочыць ініцыятыўная група. Нягледзячы на ўстаноўлены мараторый, бойкі ў класе не спыніліся. У мінулым годзе са скарбонкі дасталі каля 200 тысяч рублёў. Грошы пайшлі на канцтавары і добраўпарадкаванне класа.

**«Труд».**

ПРАБЛЕМА

# ЧЫМ ДАЛЕЙ АД ВАЙНЫ,

**Калі землятрус разбурыў армянскі горад Спітак, многія школы-інтэрнаты тагачаснага Саюза выказалі жаданне даць прытулак асірацелым дзецям. Але на дзіва ўсім, армянскія дзеці засталіся на радзіме. Іх забралі ў свае сем'і сваякі ці чужыя людзі. Аказалася, што сіроцкіх дамоў, як і выцвярэзнікаў, у Арменіі наогул няма. Там спрадвеку лічылася, што дзіця павінна выхоўвацца ў натуральных умовах, у сям'і. Гэта ў Арменіі, а ў нас іншы погляд на дзяцей, іншыя традыцыі.**

Сёння ў Брэсцкай вобласці працуюць 22 школы-інтэрнаты. У трох з іх жывуць і вучацца сіроты, а ў астатніх — дзеці з рознымі адхіленнямі ў здароўі.

Калі дзіця хворае і яго адпраўляюць у інтэрнат, то тут, нягледзячы на пэўныя маральныя страты, можна бацькоў зразумець і апраўдаць. Ёсць захворванні, пры якіх дзеці павінны знаходзіцца пад пастаянным наглядам спецыялістаў, хаця не з'яўляюцца выключэннем факты, калі дзяцей-інвалідаў здаюць у інтэрнаты, каб «развязаць» сабе рукі.

Але мы найперш звернем увагу на дзяцей, якія па волі лёсу трапілі ў школу-інтэрнат для сірот.

Ястрабельская базавая школа-інтэрнат была створана ў 1950 годзе ў былым маёнтку. Палац цяпер паўразбураны, і дзеці жывуць у адносна новых тыпавых памяшканнях. З 1978 года ў інтэрнаце знаходзяцца толькі сіроты. Сёння іх тут 230 чалавек. Восемдзесят працэнтаў дзяцей — сіроты пры жывых бацьках. Дзяржава пазбавіла бацькоўскіх правоў тых, у сем'ях якіх дзеці адчувалі псіхічны і фізічны ціск.

Галоўным чынам дзяцей забіраюць у алкаголікаў.

А астатнія 20 працэнтаў дзяцей сапраўды не маюць бацькоў ці з маленства не ведаюць іх. Напрыклад, калі маці пакідае дзіця ў радзільным доме, то малое чакае блуканне па казённых дамах.

У Пінску ёсць дом дзіцяці, дзе сіроты выхоўваюцца да 3 гадоў, а затым іх пераводзяць у Кобрынскі дзіцячы дом. А вось калі дзіцяці надыходзіць час ісці ў першы клас, то яно трапляе ў Ястрабельскую школу-інтэрнат ці аналагічныя школы ў Пінску і Дзівіне.

Дзеці, якія трапляюць у інтэрнат, у пераважнай большасці адстаюць фізічна і псіхічна ад сваіх аднагодкаў, якія жывуць у нармальных сем'ях. І сапраўды, які можа быць догляд за дзецьмі, калі бацькі круглыя суткі п'яныя? І ў той жа час ніякі дзіцячы дом не заменіць бацькоў. Вядома, што да 3 гадоў дзіця асабліва інтэнсіўна ўбірае ў сябе навакольны свет, вось чаму ў гэты перыяд для малога важны кантакт з дарослымі. А пры ўсім жаданні выхавацель не можа замяніць маці, яе ласку. Маецца на ўвазе маці, якая не страціла мацярынскае пачуццё.

Яшчэ адна акалічнасць. Усе гэтыя запушчаныя і закінутыя дзеці — з шматдзетных сем'яў.

— Не палохайце мяне, што дзіця забераце, — кажа маці-п'яніца, — я вам яшчэ нараджу.

У такіх сем'ях на дзяцей атрымліваюць дапамогу, вось бацькі і жывуць на яе, п'янствуюць.

Звычайная з'ява, калі ў інтэрнаце жывуць некалькі дзяцей з адной сям'і. На сёння рэкорд — гэта сямёра сясцёр і братоў, якія знайшлі тут прытулак.

З кожным годам узрастае колькасць сірот. На жаль, расце і колькасць дзяцей з прыроджанымі псіхічнымі адхіленнямі, інакш кажучы, з прыметамі дэбільнасці.

Толькі не трэба думаць, што калі дзіця трапіла ў інтэрнат, то яму ў жыцці ўжо нічога «не свеціць». Безумоўна, з усёй масы выпускнікоў гэта невялікі працэнт, але шэраг былых выхаванцаў «прабілі» сабе дарогу ў жыцці. Сталі настаўнікамі, медыкамі, ваеннымі...

— У школе ёсць здольныя дзеці, — расказвае дырэктар Анатоль Жытко. — І калі б яны жылі ў нармальных сем'ях, то для бацькоў была б радасць.

Матэрыяльна дзеці ў інтэрнаце забяспечаныя добра. Жывучы са сваімі ўзбаламучанымі бацькамі і штодзённа бачачы бязладнае жыццё, недагледжаныя і запушчаныя, дзеці напачатку недаверліва ўспрымаюць і школу-інтэрнат.

— А мяса тут даюць? — пытаецца замораны хлопчык, які паступіў у інтэрнат. Дзяцей тут кормяць пяць разоў на дзень і штодня на харчаванне інтэрнатаўца адпускаецца 70 тысяч.

У жылых карпусах чысціня. Калідоры засцелены дывановымі дарожкамі, а ў пакоях, дзе стаяць драўляныя ложкі, даволі ўтульна. На засланых ложках ляжаць плюшавыя цацкі. Відавочна, з імі малыя і спаць кладуцца. А вось у пакоях, дзе жывуць вучні старэйшых класаў, усе сцены ад падлогі да столі завешаны фатаграфіямі Сталоне, Ван-Дама і іншых кіназорак.

Такая вольнасць дзецям дазваляецца.

І ўсё ж уцячы ад казёншчыны немагчыма.

Жыццё ідзе ва ўстаноўленым рытме. Пад'ём — у 7 гадзін, адбой — у 22 гадзіны. І так штодня. Праўда, у нядзелю дазволена паспаць на гадзіну больш. Дзеці пад пастаянным наглядам выхавацеляў і педагогаў, якіх у інтэрнаце 55 чалавек. У першым класе на 8 вучняў два выхавацелі — мужчына і жанчына. Гэта не выпадковасць, а спроба імітацыі сям'і. Вядома, пры ўсім жаданні інтэрнацкія «бацькі» не заменяць родных, але для маленькіх сірот гэта немалаважны фактар.

Дзеці, якія трапілі ў школу з дзіцячых дамоў і іншага жыцця, акрамя «детдомовского» не спазналі, «кіруемыя» і з імі лягчэй знайсці паразуменне, чым з тымі, якія прыйшлі ад бацькоў, ды яшчэ ў старэйшыя класы. Гэтыя дзеці паспелі ўвабраць у сябе «лепшае» ад сваіх бацькоў, і іх ужо цяжка перайначыць.

Вось летась з Баранавіч накіравалі дзвюх дзяўчынак-падлеткаў, а яны, як аказалася, ужо паспелі «папрацаваць» на аўтатрасе «путанамі». Вядома, што ў інтэрнаце яны не затрымаліся.

Ёсць парушэнні і крымінальнага характару. Выхаванец С. арганізаваў групу, якая займалася ў інтэрнаце крадзяжом. Украдзеныя рэчы прадавалі. Пачалі красці са склада зубную пасту і збываць работніцы, якая ўзамен давала цыгарэты. Завадатара адправілі ў калонію, і ўсё супакоілася.

Існуе і праблема пакарання. Калі дзіця зрабіла кепскі ўчынак, то як тут быць? Родная маці дала б дубца ці плескача — і праблема была б знята. Бо ёсць дзеці, якія прызнаюць толькі сілу. Словам іх не кранеш. Што рабіць з імі ў інтэрнаце?

Ястрабельская школа-інтэрнат мае фізкультурны ўхіл. Тут добрая спартыўная база. Ёсць стадыён, спартзала, басейн... Усё тое, што, здавалася б, павінна радаваць дзяцей. Але яны хочуць вярнуцца дадому.

Было ў школе апытанне. Вучням задалі некалькі пытанняў, але ў анкетах дзяцей чырвоным пункцірам прайшла туга па дому і бацьках. Хацелі б, каб мама не піла гарэлку, а тата не біўся...

Ды толькі гэтага хочуць дзеці, а не бацькі.

Анатоль Аляксандравіч прапрацаваў у інтэрнаце 21 год, і за ўвесь гэты час толькі 3 сям'і аднавілі свае бацькоўскія правы. І вось закончаны 9 клас. Дзеці стаяць на парозе новага, невядомага жыцця, да якога яны абсалютна не падрыхтаваныя. Як бы там ні было, а жылі дзеці на ўсім гатовым, ізалявана ад грамадства, усе рашэнні за іх прымалі дарослыя. Дык які ў падлеткаў жыццёвы вопыт, розум? І дарога ў іх у асноўным адна — у прафесіянальна-тэхнічныя вучылішчы. Праўда, некаторых выпускнікоў накіроўваюць у Пінск, дзе яны заканчваюць сярэднюю школу. Толькі каб сіраце атрымаць вышэйшую адукацыю, яму неабходна прыкласці вялікія намаганні.

Маю ўвагу прыцягнула вопратка дзяцей. Яркія і дабротныя курткі і касцюмы радуюць вока. Амаль усё адзенне дзяцей з гуманітарнай дапамогі. Інтэрнат мае цесныя сувязі з замежнымі дабрачыннымі арганізацыямі і звычайнымі сем'ямі. Летась 100 дзяцей правялі канікулы за мяжой. Вязуць іх у Італію, Данію, Ірландыю. Забіраюць не толькі летам, але і зімой.

— Трэба даць шанц дзіцяці, — кажа дырэктар. — У нас толькі адно дзіця не пабывала за мяжой.

І тут узнікаюць невялікія непаразуменні. Сем'і кожны год хочуць браць да сябе ўжо знаёмых дзяцей, якія былі ў мінулым годзе, а адміністрацыя інтэрната зацікаўленая, каб як мага больш вучняў пабывала за мяжой, бо, як гаварылася, штогод у інтэрнат паступае шмат новых сірот.

Былі спробы не пасылаць за мяжу дзяцей, якія там праштрафіліся. Але заходнія дзядзькі і цёткі лічаць, што кепскіх дзяцей не бывае. Іх, вядома, трэба выхоўваць, але неабходна ўспрымаць такімі, якімі яны нарадзіліся, бо залажылі ўсе гэтыя праблемы іх бацькі.

Хачу звярнуць увагу на адну акалічнасць, якая кідае цень на наша грамадства ў цэлым. Кожнае лета ў інтэрнаце застаецца палова дзяцей. Іх адпраўляюць у аздараўленчыя лагеры. Але для дзяцей, як лічаць спецыялісты, найлепшым варыянтам было б, каб сіроты лета праводзілі ў сем'ях.

Толькі ў нас яны нікому не патрэбныя. І гэта не ад беднасці, бо на дзіця інтэрнат выдае па 70 тысяч у дзень. Але жадаючых узяць сірату няма.

Быў выпадак, калі адна маці, якую пазбавілі правоў, з'явілася з дакументам ад інспектара на дазвол узяць дзіця на лета. Ёй выплацілі грошы за месяц і жанчына паехала. Але праз тыдзень вярнулася з абарваным і замурзаным дзіцем і пачала прасіць, каб аддалі грошы за астатнія месяцы, бо няма на што жыць.

Прыйшлося дзіця забраць.

І апошняе. Дзяржава на ўтрыманне школ-інтэрнатаў адпускае вялікія грошы. Толькі інтэрнат у Ястрабелі «з'ядае» ў год 10 мільярдаў. З 1 верасня мінулага года паступіла распараджэнне, каб адміністрацыя інтэрнатаў за ўтрыманне дзяцей брала грошы з былых бацькоў. Па дзве мінімальныя зарплаты за дзіця ў месяц. Але паспрабуй вазьмі гэтыя грошы ў п'яніц, якія яшчэ да ўсяго не адно, а некалькі дзяцей маюць у інтэрнаце. Тут бездапаможныя і суды, і праваахоўныя органы. Так што і надалей увесь цяжар выхавання сірот будзе ляжаць на дзяржаве.

**Сымон СВІСТУНОВІЧ.**

# ТЫМ БОЛЬШ СІРОТ

## 36,6°

## Ваша здароўе: 20 сігналаў трывогі

***Кожны дзень мы глядзімся ў люстэрка, але ці часта мы абцяжарваем сябе тым, каб разгледзець наша цела ўважліва — з галавы да пят? Між тым, першыя прыметы многіх хвароб можна вызначыць на вока. Вось 20 сімптомаў, якія падаюць нам сігналы трывогі.***

**1.** Апухлыя шчыкалаткі могуць сведчыць аб цукровым дыябеце, рэўматызме, праблемах з ныркамі, часам аб пашкоджанні звязак у выніку празмернай нагрузкі.

**2.** Дробныя пухіры, прышчыкі ці пачырваненні на скуры, якія свярбяць, могуць папярэджваць аб пагражаючым вам дыябеце; аб тым жа можа сведчыць і паяўленне на нагах грыбковага захворвання.

**3.** Апухлыя лыткі (калі пры націсканні пальцам на іх застаюцца ўвагнутасці) могуць быць прыметай паталогіі нырак і печані; але тыя ж сімптомы часам сведчаць аб сардэчнай недастатковасці.

**4.** Прыпухласці пад каленнай чашачкай — прымета гіпертрафіі шчытападобнай залозы.

**5.** Раптоўнае кульганне, вяласць ікраножных мышцаў сведчаць аб захворванні нервовай сістэмы, вядомым як рассеяны склероз.

**6.** Вузельчыкі ў паху (якія лёгка можна намацаць (прынамсі, на працягу двух тыдняў), могуць быць прыметай пухліны і нават рака.

**7.** Выдзяленні з палавых органаў (асабліва гною і крыві) — прымета венерычнага захворвання; кароста — грыбковага.

**8.** Раптоўны моцны боль у вобласці бёдраў сведчыць аб артрозе ці запаленні тазасцегнавых суставаў, але можа сведчыць і аб размякчэнні коснай тканкі (астэапарозе).

**9.** Пушэнне і рэзкі боль у ніжняй частцы жывата могуць папярэджваць аб апендыцыце ці аб пухліне ў кішэчніку.

**10.** Моцна ўздуты жывот і частае выдзяленне газаў могуць быць прыметай рака яечнікаў ці прамой кішкі.

**11.** Раптоўнае змяненне памеру ці пругкасці грудзей або паяўленне на ёй «апельсінавай скуры» могуць сведчыць аб раку грудной залозы.

**12.** Адным з сімптомаў рака можа быць таксама ўсыханне саскоў. Асабліва небяспечным з'яўляецца выдзяленне з саскоў крыві.

**13.** Павялічаныя падпахавыя вузельчыкі могуць азначаць запаленне, а магчыма, і рак лімфатычнай ці грудной залозы.

**14.** Распухлая шыя (калі не зашпільваецца верхні гузік кашулі) — магчымая прымета туберкулёзу, захворвання шчытападобнай залозы ці рака лімфатычнай залозы.

**15**. Раптоўная слабасць і адзервянеласць у передплеччы (калі вас не слухаецца рука) могуць сведчыць аб мікраінсульце.

**16.** Вузлаватыя ўтварэнні на локці ў спалучэнні з болем у плячы — часта прадвеснікі рэўматызму.

**17.** Сагнутыя плечы, сярод усяго іншага, могуць быць прыметай астэапарозу ці рэдкага эндакрыннага расстройства — так званага сіндрому Кушынга.

**18.** Паблеклыя, ломкія валасы сведчаць аб недахваце жалеза ці вітаміну В, а раптоўнае выпадзенне валасоў — аб імунным захворванні (якім з'яўляецца, у прыватнасці, СНІД).

**19.** Пастаянная патлівасць далоняў сведчыць аб дысфункцыі шчытападобнай залозы, а калі далоні нямеюць ці свярбяць, прычынай можа быць як авітаміноз, так і цукровы дыябет.

**20.** Увагнутасці, барозны ці крывыя «насечкі» на пальцах рук сведчаць аб грыбковым захворванні ці аб псарыязе.

*«АиФ-Здоровье».*

# Калі ўзнікла патрэба прайсці медагляд...

**24-я паліклініка беларускай сталіцы вядомая многім мінчанам. Менавіта ў гэтай установе праходзяць медыцынскі агляд, збіраючыся атрымаць вадзіцельскія правы. Вырашылі і мы зазірнуць у гэтую прыкметную для сталіцы медыцынскую ўстанову. Наш суразмоўца — галоўны ўрач Уладзімір Іванавіч АПРЭЛЕЎ.**

**— Хацелася б даведацца, якім чынам можна прайсці медагляд, якія падставы для гэтага патрэбны, з якімі дакументамі да вас прыходзіць?**

— Падставы зразумелыя — калі вы здаяце экзамен на вадзіцельскія правы, калі ўладкоўваецеся працаваць у сістэму абслугоўвання (гэта значыць — на прадпрыемства грамадскага харчавання, у цырульню, пральню і г. д.) альбо ў гандаль, а таксама, напрыклад, у дзіцячы садзік, то вас туды без праходжання ў нас медыцынскай камісіі проста не возьмуць. Акрамя таго існуе пэўны парадак і адносна перыядычнасці праходжання камісіі ўжо ў час работы ў памянёных сферах. Напрыклад, вадзіцель абавязаны праходзіць медагляд не радзей як 1 раз у пяць гадоў. А вось ужо пасля 60 гадоў тэрмін дзеяння нашай даведкі — усяго 2 гады. Ёсць і іншыя абмежаванні. Вадзіцель пасажырскага транспарту абавязаны праходзіць медагляд не радзей як 1 раз у 3 гады. Акрамя таго, часам, у залежнасці ад стану здароўя, даведку мы можам выдаваць і тэрмінам на 1 год. Работнікі сферы абслугоўвання праходзяць медагляд двойчы на год.

Што датычыцца дакументаў, то тут усё вельмі проста — 2 здымкі памерам 3х4 см, выпіска з амбулаторнай карты, якая вядзецца па вашым месцы жыхарства, а таксама ваенны білет для ваеннаабавязаных. Папярэджваю адразу адносна ваеннага білета. Здараецца, што медыцынскай камісіі ў час прызыўной кампаніі ўдаецца даказаць, што наведвальнік мае пэўнае значнае захворванне. А вось у жаданні атрымаць вадзіцельскія правы якраз гэтае захворванне з'яўляецца перашкодай. Так што перш чым прымаць пэўнае рашэнне на канкрэтным адрэзку жыцця, варта задумацца і пра наступствы.

**— І, здаецца, вашай паліклініцы ўжо датычыцца разуменне медыцыны як паслугі платнай...**

— Так, за медагляд наведвальнікам даводзіцца выкладваць 50 тысяч рублёў, як на сённяшні дзень. Грошы, пагадзіцеся, не дужа вялікія, але тым не меней нам яны дазваляюць быць структурай гаспадарчаразліковай. Па сённяшнім часе акалічнасць даволі важная для гарадскога бюджэту. А для наведвальнікаў часам праяўляецца палёгка з боку многіх прадпрыемстваў: згодна з калектыўнымі дагаворамі адміністрацыя аплачвае затраты шляхам пералічэння, але гэта, безумоўна, для стала працуючых, а не для тых, хто яшчэ ўладкоўваецца на працу.

Дарэчы, самі мы не павышаем цэны, яны ўстанаўліваюцца Дзяржкамітэтам па цэнах згодна з прэйскурантам. На змены ў цане ўплывае павышэнне мінімальнай заработнай платы. Але тут часам узнікаюць пэўныя фінансавыя складанасці. Наша цана спазняецца ў росце пры павышэнні пэўных тарыфаў, напрыклад, за камунальныя паслугі альбо за мыццё бялізны.

**— Прабачце, але ці не прасцей было б медагляд раскідаць па паліклініках згодна з месцам пражывання альбо работы? Усё ж такі горад даволі вялікі...**

— Якраз такая практыка была б не на карысць справе. Вось у нас, напрыклад, летась прайшлі агляд 65 тысяч вадзіцеляў ці будучых па тым часе вадзіцеляў. Раскіньце гэтую лічбу на 40 гарадскіх паліклінік. Пасля ўлічыце, што гэтых, дапусцім, паўтары тысячы чалавек, будуць ісці на працягу года. Дык няўжо гэта разумна — трымаць цэлую камісію ў саставе некалькіх спецыялістаў, калі яна будзе працаваць мо якую гадзіну ў дзень?

Наша работа зарыентавана менавіта на медагляды. Паліклініка камп'ютэрызаваная, што вельмі важна і для саміх наведвальнікаў. Хаця б, напрыклад, у тым плане, што ў нас ёсць інфармацыя па пацыентах, якія знаходзяцца на ўліку ў псіхдыспансеры і г. д. Зараз, між іншым, даведкі адтуль мы не патрабуем.

**— А калі здараюцца канфліктныя сітуацыі, то якім чынам яны вырашаюцца?**

— Канешне ж, часам мы выносім адмоўнае рашэнне ў выніку медагляду. І чалавек, які марыў атрымаць правы, безумоўна, незадаволены, калі выслухоўвае яго. У такім разе мы прапаноўваем завітаць на пасяджэнне канфліктнай камісіі. Праводзіцца яна ў нашым жа памяшканні па вуліцы Ульянаўскай, 32, але стварае камісію камітэт па ахове здароўя Мінгарвыканкама.

Ёсць і другі вельмі значны бок нашай дзейнасці. Дзякуючы медаглядам адбываецца і вялікая прафілактычная работа. Людзі, самі таго не падазраючы, знаходзяць у сябе захворванні і ўжо пачынаюць займацца іх лячэннем.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

